# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 21 (1723) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 21 МАЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.


## ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР

**У сёлетніх выбарах у Сейм і Сенат Польскай Народнай Рэспубліні, якія будуць праводзіцца 4 чэрвеня, сваю кандыдатуру ў сенатары паставіў беларускі пісьменнік і публіцыст з Беластока Сакрат Яновіч. Подпісы дзеля рэгістрацыі Сакрата Яновіча ў выбарчым спіску Беластоцкай выбарчай камісіі збіралі актывісты Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Беларускага аб'яднання студэнтаў ды многія іншыя асобы, якія справу прадстаўніцтва беларускай нацыянальнай меншасці ў кіруючых органах дзяржавы лічаць важнай і неабходнай. Наша рэдакцыя поўнасцю падтрымлівае кандыдатуру Сакрата Яновіча ў выбарах у Сенат ПНР. Сёння прапануем чытачам „Нівы" інтэрв'ю з кандыдатам, якое ўзяў наш журналіст Ян Максімюк.**

**Ян Максімюк:** За 45 гадоў народнай улады ў Польшчы беларуская нацыянальная меншасць упершыню мае тэарэтычныя шанцы выбраць свайго прадстаўніка ў кіруючыя органы краіны. Як вы ацэньваеце стан палітычнай самасвядомасці тае часткі беларускага народа, якая сёння жыве на Беласточчыне? Ці даспела яна да таго, каб думаць пра сябе як пра нейкую палітычную сілу ў ПНР?

**Сакрат Яновіч:** Справа ў тым, што за ўвесь пасляваенны час беларусы не мелі магчымасці адыграць нейкую самастойную палітычную ролю. Заўсёды трактавалі іх інструментальна, як нейкі дадатак да дзяржаўнай палітыкі. Беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы не мае традыцыі палітычнага жыцця. На самай

(Працяг на стар. 6)



САКРАТ ЯНОВІЧ — НАШ КАНДЫДАТ У СЕНАТАРЫ.

## „ВАСІЛЁЧКІ" У СМАРГОНІ І МІНСКУ

У Смаргонь мы прывезлі з сабою сонца. Гэты трыццацітысячны горад, што знаходзіцца ў паўночна-заходнім закутку Беларусі, некалі славіўся так званай „Смаргонскай акадэміяй". Тут у 17-18 ст.ст. гадавалі і дрэсіравалі мядзведзяў, якіх потым вазілі амаль па цэлай Еўропе. Сёння Смаргонь славіцца Народным ансамблем песні і танца імя Міхала Клеафаса Агінскага ды гаспадарнасцю раённых калгасаў, у якіх выдатныя эканамічныя вынікі і знакамітыя дамы культуры.

Бельскія „Васілёчкі", напярэдадні свайго дваццаціпяцігадовага юбілею, былі запрошаны на Беларусь, каб прыдаць бляску дням польскай культуры ў Савецкім Саюзе.

Першы канцэрт адбыўся ў смаргонскім Доме афіцэраў. Прынялі нас там хлебам і соллю. Ужо пасля першых песень Анджэй Дружэўскі, які вёў канцэрт, пераламаў скаванасць артыстаў і публікі. „Васілёчкі" спяваюць штораз спраўней, гледачы штораз гучней сыплюць воплескамі. Аказваецца, што ў зале ёсць столькі беларусаў, што і палякаў, ці мо лепш сказаць, беларусаў, якія добра ведаюць польскую мову. Песні „Васілёчкаў" успрымаюцца з вялікім зацікаўленнем. Для гэтай грамадскасці беларускія песні, сабраныя з усёй Беласточчыны, сведчаць аб новым невычэрпным багацці песеннай культуры беларускага народа. Канцэрт, як, зрэшты, і ўсе астатнія канцэрты ў Крэве, Кушлянах, Залессі і Сіньках, быў прыняты з велізарным зацікаўленнем. Добрае гучанне хору, добрая музычная аранжыроўка капэлы ды прадстаўленне дзвюх сюітаў у форме сцэнічнага руху з танцавальнымі акцэнтамі выклікалі гэтулькі захаплення, колькі і зайздрасці, што ў Бельску-Падляшскім дзейнічае так знакаміты калектыў. Калектыў не абмяжоўваецца выключна беларускімі песнямі, у яго рэпертуары таксама і падляшскія песні, кранаючыя сваёй красою і меладычнасцю. Дзякуючы такому спалучэнню „Васілёчкі" сталіся калектывам універсальным, які спалучае фальклор і традыцыі двух суседніх рэгіёнаў. Сяргей Лукашук, кіраўнік і адначасова дырыжор калектыву, уганараваны і крыху збянтэжаны такім сардэчным прыёмам. Ды так ужо ў жыцці бывае, што поспехаў і веры ва ўласныя артыстычныя магчымасці чалавек дабіваецца здалёк ад свайго асяроддзя. Што ж, нікому не даводзіцца быць прарокам у сваім доме.

Падобныя прыёмы, адабрэнне і сардэчнасць гледачоў спадарожнічалі калектыву на ўсіх канцэртах, арганізаваных у Крэве, Кушлянах, Залессі і Сіньках. Сёння ў гэтых вёсках, а лепш сказаць, у сельскагаспадарчых камбінатах, існуюць знакамітыя калгасы. Заможнасць калгасаў можна ўгледзець і з вокан аўтобуса калі відаць добра загаспадараныя палі і самавітыя дамы культуры. Зофія Лазар, загадчык Раённага аддзялення культуры ў Смаргоні, зайздросціць нам „Васілёчкаў", а мы ў сваю чаргу зайздросцім ёй залаў гледачоў, дамоў культуры і добрай арганізацыі нашага прыезду. У Залессі нас раскватаравалі ў будынку, непадалёк палаца

(Працяг на стар. 6)

## НА МЯЖЫ

Здарылася гэта напярэдадні свята нараджэння Хрыста, у дзень Каляды 1987 года. Ехаў я праз такія вёскі, як Нарва, Даратынка і Градочна. І вось якраз у Градочне здарылася са мной нештадзённая прыгода. Пераехаўшы вёску Градочна, я залюбаваўся характвом лесу і затрымаў машыну. Выйшаў і пачаў прыглядацца да цікавага беларускага крыжа, які стаяў на скрыжаванні дарог. Прайшоўся па лесе, які, нягледзячы на зімовую пару, быў у такім стане, што хутчэй нагадваў ранняю восень, чым ранняю зіму. Лес быў такі зялёны, а мох такі свежы, што я пачаў прыглядацца з надзеяй, што, можа, знайду зялёнкі. Пахадзіўшы па лесе, я пастанавіў ехаць далей, тым болей, што ўжо вечарэла, а я спяшаўся ў вёску Козлікі. Не думаў, што чакае мяне прыкрая неспадзеўка. Сеўшу ў машыну. хацеў уключыць матор, аднак нічога з гэтага не выйшла. Мой старэнькі акумулятар не даваў іскры, якая магла б запаліць бензін. Можа разоў сто паварочваў я ключык, але нічога з гэтага не атрымлівалася. Не было рады, трэба было выйсці з машыны і ісці ў вёску Градочна прасіць, каб нехта крануў мяне з месца пры дапамозе трактара. На шчасце, да вёскі было ўсяго метраў дзвесце.

Дайшоўшы да вёскі, пабачыў я пры пабудаванай хаце на панадворку трактар. А якраз ён мяне цікавіў. Таму я і ўвайшоў у гэты новазбудаваны дом і застаў дзве жанчыны. Вось сцэнарый далейшых падзей:

— Дзень добры!

— Дзень добры!

— Гаспадар дома?

— Німа гаспадара. Паехаў у лес.

— Калі так, то прабачце, пайду да вашых суседзяў.

— А чаго вам трэба?

— Не магу ўключыць машыну і хачу, каб мяне хтось шарпнуў трактарам.




— То вас можэ шарпнуті наша деўчына.

— Хай шарпне, буду вельмі ўдзячны.

У кухню ўвайшла маладая прыгожая дзяўчына і заявіла:

— Зараз вас потягну.

Мы разам з дзяўчынай выйшлі на панадворак, знялі з трактара некалькі скрынак з мінеральнай вадой. Я пайшоў у бок сваёй машыны, а дзяўчына ўключыла трактар і пачала манеўраваць, каб выехаць з панадворка.

Амаль у тым самым моманце дайшоў я да сваёй „лады" і на трактары пад'ехала дзяўчына.

Аказалася аднак, што я не меў ніякага каната. Не было яго і пры трактары і таму дзяўчына паехала назад па ланцуг. Вярнулася з пастронкам. Не без клопату ўдалося мне прывязаць пастронак да сваёй „лады". Дзяўчына тузанула, пастронак лопнуў, а мая машына не ўключылася. Давялося зноў прывязваць „ладу" да трактара. На гэты раз машына ўключылася, дзякуючы чаму мой настрой змяніўся з сумнага на радасны. Стала ясным, што ў дзень Каляды не буду начаваць ні ў лесе, ні ў чужой мне вёсцы. Выразна шчаслівы, я выскачыў з машыны, падбег да трактара, падзякаваў дзяўчыне і стараўся ўпіхнуць ёй у рукі чатырыста злотых. Тая аднак глянула на мяне як на свайго роду злачынцу.

— І не думайтэ! — заявіла. — Ніякіх грошай я не вазьму.

— Вы ж мяне ставіце ў нялоўкую сітуацыю. Вы ж зрабілі мне ласку, памаглі, трацілі час і бензін. Вазьміце грошы.

— Не вазьму ні за што. Не давайтэ мне грошай, бо вас больш ніколі не потягну.

— Вельмі вам я ўдзячны, але чуўся б намнога лепш, калі б з вамі разлічыўся.

І тут, калі можна так сказаць, наступіў сітуацыйны зварот, аб якім можна было б і не гаварыць, бо ён можа сведчыць аб маім самахвальстве.

Калі я ў далейшым стараўся ўручыць дзяўчыне грошы, яна спытала:

— А хто вы такі? Выглядаетэ по-городскому, а говорытэ по-нашому.

— Не ведаю, ці вам нешта скажа маё прозвішча. Называюся я Баршчэўскі або Барскі.

— О-о-о! Сетаго я не сподівалася.

— Чаго вы не спадзяваліся?

— Не думала, што такую славу тягла!

Мой сённяшні адрэзак называецца: „Аб добрым і смешным". Можа хтосьці спытаць: а што ж тут добрае, а што смешнае? Адкажу так. Добрыя аказаліся жыхары вёскі Градочна, а гаворачы канкрэтней, сям'я Іванюкоў. Гэта яны — маці і дачка аказалі мне сэрца, дапамаглі ў клопаце. Значыць, жывая яшчэ душа ў беларусаў! Кланяюся ёй і выяўляю ёй сваю ўдзячнасць.

А што смешнае? Смешная фраза: „Не думала, што такую славу тягла!"

Яшчэ раз дзякую прыгожай і добрай дзяўчыне з Градочнай. Не ведаю яе імя, але ведаю, што мае яна добрае сэрца, якое заслугоўвае на пахвалу і ўдзячнасць.

**Алесь Барскі**

## З ДРУКУ

# Miejsce dla mniejszości

*„Okrągły stół" zakończył się przyjęciem kompromisowych uchwał. Sejm znowelizował konstytucję, uchwalił ordynację wyborczą do obu izb polskiego parlamentu, Rada Państwa ustaliła niezbyt odległy dzień wyborów. Już 4 czerwca obywatele naszego kraju pójdą do urn.*

Niewiele czasu pozostało na wystawienie kandydatów, przeprowadzenie kampanii wyborczej, sformułowanie programów. Ma to istotne wady: trudno jest bowiem w krótkich terminach przeprowadzić doniosłą pracę wyjaśniającą wyborcom cele i zamierzenia wszystkich kandydatów. Rozumiem jednak, że interes ustabilizowania polityki kraju oraz pozyskania zaufania społeczeństwa przez parlament, nareszcie w miarę demokratycznie wybrany, wymaga pośpiechu.

Pośpiech ten jednak może mieć wiele ubocznych skutków ujemnych. Do nich zaliczam realną szansę zlekceważenia interesów mniejszości.

Wiele racji miał pisarz białoruski i obywatel polski Sokrat Janowicz gdy twierdził, że stosunek do mniejszości jest miarą kultury większości. Zapewne nie jedyna to miara, ale niezmiernie ważna. Nie wiem, ilu w Polsce mamy obywateli, dla których mową ojczystą są języki inne niż polski, którzy pielęgnują odmienne tradycje. Na pewno więcej niż 1 proc., może nawet około 2 proc. Jest to więc kilkusettysięczna rzesza. Podstawowe ich interesy są zbieżne z interesami polskiej większości; tak samo pragną demokratyzacji systemu politycznego, przezwyciężania kryzysu gospodarczego, rozwiązania wielu innych — ogólnopolskich oraz lokalnych — problemów. Zarazem mają interesy specyficzne, o których skłonni jesteśmy nieraz zapominać. Wymienić należy zwłaszcza oświatę w ojczystych językach, rozwój narodowych kultur oraz ich upowszechnienie wśród współrodaków.

**Zbyt rzadko głos przedstawicieli mniejszości narodowych znajduje w Polsce drogę do czasopism wydawanych w języku polskim i docierających do wszystkich czytelników.** Jakkolwiek „Polityka" poświęca problemom mniejszości więcej miejsca niż wiele innych pism, to również nie jest bez grzechu. Wyjątkowo tylko problemy dręczące mniejszości bywają przedmiotem zainteresowania najwyższych organów władzy państwowej, a nawet rozmaitych ciał doradczych; także w uchwałach „okrągłego stołu" nie znajdziemy — ku mojemu wielkiemu rozczarowaniu — nawet śladu zrozumienia, że obywatelami Polski są nie tylko Polacy.

To prawda, że w ostatnich miesiącach wzrasta zainteresowanie tymi zagadnieniami w polskim społeczeństwie. Dowodem tego są chociażby artykuły w niektórych czasopismach polskich. Również w gronie doradców Lecha Wałęsy znaleźli się ludzie, życzliwie zainteresowani sytuacją mniejszości. Proszę jednak pamiętać, że publicysta lub polityk polski — nawet najbardziej przychylnie odnoszący się do problemów mniejszości narodowych — aż nazbyt łatwo może przeoczyć ważne zagadnienia, albo nawet je zlekceważyć. Nie ze złej woli, lecz z niedostatecznej wiedzy. Z własnego doświadczenia wiem, jak łatwo o błąd lub przeoczenie, gdy staram się przedstawić kwestie ważne dla naszych współobywateli odmiennej mowy oraz tradycji.

**Uważam więc niezmiennie, iż w polskim parlamencie — czyli w Sejmie i Senacie — powinna znaleźć się reprezentacja mniejszości narodowych.** W swoim czasie na łamach „Polityki" zaproponowałem projekt ustawowego zagwarantowania takiego przedstawicielstwa; Sejm uchwalił jednak ordynację wyborczą, która nie zawiera żadnych gwarancji. Być może, prawne rozwiązanie problemu okazało się zbyt skomplikowane, jeśli zasady prawa wyborczego miały być zrozumiałe dla wszystkich obywateli i możliwe do zastosowania w praktyce.

Powstało jednak poważne niebezpieczeństwo, że rozproszone społeczności mniejszościowe nie zdołają doprowadzić do wybrania ani jednego swego przedstawiciela. Okręgi wyborcze są dość duże, w żadnym z nich mniejszości nie dysponują odpowiednią liczbą głosów, która wystarczy do wyboru posła, a tym bardziej senatora. **Może się okazać, że w przyszłym parlamencie nie zasiądzie nikt, kto mógłby reprezentować Białorusinów, Cyganów, Czechów, Greków, Litwinów, Niemców oraz Żydów. Nikt, kto z własnego doświadczenia zna sytuację grup mniejszościowych w Polsce.**

Jeśli nawet wyrazić można nadzieję, iż przyszły parlament nie zapomni o mniejszościach, to przecież — pozbawiony ich reprezentacji — bardzo łatwo może popełniać błędy, a nawet uchwalać prawa sprzeczne z najbardziej żywotnymi interesami mniejszości. Bez złej woli, lecz z nieświadomości skutków swych decyzji. Demokratyczny Sejm i Senat naruszać mogą — bezwiednie — jedną z podstawowych zasad demokracji: uwzględnianie nie tylko woli większości, lecz także interesów grup mniejszościowych.

**Obecność przedstawicieli mniejszości w parlamencie nie szkodzi interesom polskim.** Nawet gdyby — wyobraźmy sobie najbardziej nieprawdopodobną sytuację — zechcieli działać wbrew interesom Rzeczypospolitej, to przecież proporcjonalny ich udział w obradach i głosowaniach będzie znikomy i nie zdołają przeciwstawić się woli większości. Natomiast współpraca ich w stanowieniu prawa, w rozpatrywaniu rozmaitych aspektów dyskutowanych ustaw, może przyczynić się do ich doskonalszego kształtu. Spojrzeć

(Працяг на стар. 4)

 

вай гісторыі калектыву ніхто не памятае такіх прывітанняў. Затым распачынаецца артыстычная бяседа. Кожны з калектываў паказвае сваю праграму, свае здабыткі, свае песні. Не бракавала таксама і польскіх песень. Быў гэта своеасаблівы агляд народных песень: і сабраных на Беласточчыне, і са Смаргонскага раёна.

Нягледзячы на тое, што ўжо крыху змучыліся, едзем у Мінск. Перш за ўсё аглядаем ґорад, галоўным чынам крамы і вялікія „універмагі". Перад гмахам тэлебачання чакае нас кіраўнік рэдакцыі Таццяна Кашмарава. Ідзем у студыю, каб зарэгістраваць нашу праграму. Рэжысёр праграмы Вера Рудская выразна задаволена першай рэпетыцыяй, а „Васілёчкі" ні трохі не паказваюць ні хвалявання, ні здзіўлення, апынуўшыся сярод гушчэчы камераў і рэфлектараў. Пачынаюцца шматгадзінныя запісы для тэлебачання. Праграму вядзе Зінаіда Бандарэнка, якая адначасова бярэ міні-інтэрв'ю ў Сяргея Лукашука, у яго жонкі, а таксама ў Лявона Кудзіна і Валянціны Мароз. На каляровых маніторах і плёнцы строі бельскіх „Васілёчкаў" выглядаюць надзвычай зырка. Шкада, што гэтага не бачаць жыхары Бельска, асабліва тыя, якія сумняваюцца не толькі ў сэнсе дапамогі калектыву, але і ў тым, ці варта, каб ён увогуле існаваў. Калектыў дзейнічае дзякуючы самаадданасці і грамадскай ахвярнасці сваіх членаў. Якраз яны, людзі з калектыву, супольна ствараюць культурныя якасці, бо адчуваюць унутраную патрэбу супольнага спявання. Традыцыя такая вядзецца здаўна. Не зразумее яе той, хто замыкае прыватнае жыццё выключна ў бетонных сценах трохпакаёвай кватэры.

Вяртаемся ізноў у бляску сонца і зелені траў і лістоты. Пакідаем Беларусь, блукаемся па вуліцах Вільні, каб вярнуцца на родную старонку, да радні.

**Вітальд Дачынскі**
**Фота аўтара**



*„Васілёчкі" ў Доме афіцэраў у Смаргоні.*



*Мужчынская палова „Васілёчкаў" у студыі тэлебачання ў Мінску.*



*...і жаночая палова „Васілёчкаў", таксама перад камерамі.*

## СУМНА І СТРАШНА

На трэці дзень Вялікадня паехаў я на праваслаўны могільнік у Беластоку, каб пакланіцца спачываючым тут навечна.

Кожны раз, калі толькі зайду за паркан, агортвае мяне сум і страх. Кожны могільнік сведчыць аб яго людзях, аб іх веравызнанні і нацыянальнасці. Тым часам на нашых праваслаўных могілках розныя крыжы і розныя на іх надпісы — польскія і рускія. Адзіны, бадай, на ўсе могілкі помнік сведчыць аб тым, што тут пахаваны беларус. Гэта помнік Юрку Геніушу.

На мой погляд, разнабой у надпісах і крыжах дрэнна сведчыць аб людзях, якія пакуль што астаюцца ў жывых. Яны заблытаныя, не ведаюць, як лепш камусьці дагадзіць, як і ў жыцці. Я не гавару аб праваслаўных паляках, якія шануюць сваю мову і свой алфавіт. Ведаю шмат беларусаў, якія ляжаць пад чужымі крыжамі. Божа, не спрачайцеся са мною, што вы так мусілі, што няма мастакоў, якія робяць беларускія надпісы на крыжах. Няпраўда. Рамеснік напіша ўсё, што вы яму дасце, і крыж зробіць, які закажаце. Найгоршая бяда ў тым, што мы хочам ставіць і Богу свечку, і чорту агарак. Мы віляем хвастамі, як лісы, абы для ўсіх быць добрымі.

Крыж над праваслаўнай магілай на праваслаўных могілках павінен быць праваслаўным, бо гэта як бы памост паміж жывымі і памершымі, бо гэта помнік чамусьці важнаму, што не павінна канчацца разам са смерцю чалавека. Чаму мы такія паўзуны і гатовы ўсім падлізвацца, чаму абыякавыя да нацыянальнага, чаму дбаем, каб толькі напхаць трыбух, прыгожа апрануцца і выспацца?! Не думаем аб сваім гонары, аб сваім я...

З жахам думаю, што з намі будзе праз сто год. Што гаварыць аб асіміляцыі сярод жывых, калі яна пашыраецца і на могілках.

**Васіль Петручук**

адразу расчароўваецца і плача. Мы замнога плачам, а замала ратуем саміх сябе.

**Ян Максімюк:** Ды ўсё ж такі на маю думку, значных вынікаў беларусы для сябе не даб'юцца, калі непрыхільна будуць ставіцца да нас палякі, калі далей будуць лічыць нас чужынцамі. І наадварот, калі мы — іх...

**Сакрат Яновіч:** Мы, як кожная нацыянальная меншасць, залежым ад большасці. Агульна кажучы, як адносіцца да нас будуць палякі, так мы будзем адносіцца да іх. Таму для нас вельмі важна будаваць карысныя адносіны з боку палякаў. Але на гэта рашаючага ўплыву мы як меншасць мець не можам.

Як зазначаюць шматлікія польскія палітыкі, адносіны палякаў да нацыянальных меншасцяў рашаюць пра палітычную культуру ў краіне і пра лёс дэмакратыі. Як доўга паляку ў нас беларус будзе здавацца ворагам, так доўга ў Польшчы не будзе дэмакратыі.

### БІЯГРАФІЯ КАНДЫДАТА

*Сакрат Яновіч нарадзіўся ў 1936 годзе ў Крынках, у гаспадарскай сям'і. Закончыў Электрычны тэхнікум у Беластоку, працаваў нейкі час на беластоцкіх фабрыках. Перайшоў на работу ў „Ніве" з моманту яе заснавання ў 1956 г. Адначасна з публіцыстыкай пачаў змяшчаць у „Ніве" свае першыя літаратурныя творы: мініяцюры і кароткія апавяданні. У 1969 годзе выйшла першая кніжка Сакрата Яновіча на беларускай мове: зборнік мініяцюр і апавяданняў „Загоны". У 1970 годзе Яновіч быў прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў. На схіле шасцідзесятых гадоў публіцыстыка Сакрата Яновіча, якая паказвала гаспадарчы занапад беларускай вёскі, пачала муляць вочы мясцовым заправілам палітычна-эканамічнага жыцця, бо не была сугучная афіцыяльнаму погляду, што ўсё ідзе добра і пойдзе яшчэ лепей. Яновіч, як „дэмагог у пытаннях сельскай гаспадаркі і беларускі нацыяналіст", быў звольнены з работы ў „Ніве", затым выключаны з партыі. На працягу наступных дзесяці гадоў пісьменнік хапаўся за розныя заняткі, пераважна як чорнарабочы, каб зарабіць на сям'ю і жыццё. У 1973 годзе завочна закончыў польскую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Працаваць у „Ніве" зноў стаў у 1980 годзе. Да гэтай пары выйшла каля паўтара дзесятка кніг Сакрата Яновіча (у тым ліку два раманы: „Сцяна" і „Самасей"), пераважна ў перакладах на польскую мову. Адна з ягоных кніжак, „Сярэбраны яздок", была апублікавана ў 1978 г. у Мінску. У 1984 годзе ў Лондане былі апублікаваны „Мініяцюры" Яновіча ў перакладзе на англійскую мову (пераклады былі змешчаны ў кніжцы паралельна з арыгіналамі). Сакрат Яновіч вядомы перад усім як празаік, але ён жа і аўтар сцэнічных твораў, шматлікіх эсэ і нарысаў па беларускіх пытаннях, а таксама перакладаў як з польскай на беларускую мову, так і з беларускай на польскую. У 1986 годзе выйшла кніжка „Беларусь, Беларусь", напісаная Яновічам па-польску, выдатны гістарычна-лірычны эсэ, які да сённяшняга дня выклікае моцны рэзананс і самыя супярэчлівыя ацэнкі ў колах польскай і беларускай інтэлігенцыі, адначасна з'яўляючыся асноўным падручнікам па гісторыі польска-беларускіх адносін.*

*Сакрат Яновіч з жонкай Таццянай жывуць у Беластоку на вул. Марыі Кюры-Складоўскай 6, кв. 12. Маюць двух сыноў: старэйшы працуе мастаком, малодшы — выкладчыкам у Музычнай акадэміі.*

**Ян Максімюк**
**Фота Здзіслава Лянкевіча**



 

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## АПТЫМІСТЫЧНА Ў ОРЛІ



*На змену васьмікласнікам у школе рухтуецца цяперашні шосты клас. На здымку яны са сваёй настаўніцай Аннай Шыманскай. Злева направа: Аня Главацкая, Агнешка Рагоза, Анэта Шыманская, а за настаўніцай — Габрыеля Гаворка, Маніка Харуй і Ася Кулік.*

Не раз чытачы „Зоркі" бачылі на яе старонках у куточку „Вучнёўская творчасць" вершы дзяцей са школы ў Орлі. І гэта не так сабе. Бо ў гэтай школе вучні на ўроках беларускай мовы не толькі пазнаюць творчасць беларускіх пісьменнікаў, але і прабуюць самі выказаць мастацка свае думкі. Рабілі яны па прапанове настаўніцы конкурс на верш пра вясну, зіму ці лета, прабавалі выказваць свае думкі пра адносіны да роднай мовы і традыцыі бацькоў, ды і наогул у пісанні лістаў да нашай газеткі.

У гэтай школе ўсе дзеці вывучаюць родную беларускую мову. Доўгія гады тут існаваў беларускі пазалекцыйны гурток. А цяпер яго ролю спаўняе класная работа. Вось, напрыклад, увесь восьмы клас — гэта тэатральны калектыў. Сёлета вучні з Орлі падрыхтавалі да тэатральнага конкурсу п'еску Сакрата Яновіча „Люцынка-інжынерыха". А раней яшчэ, у мінулым годзе, ставілі п'еску Юркі Генюша „Вываражыла". З гэтай п'ескай ездзілі нават па вёсках, паказвалі яе для старэйшых жыхароў. А адзін раз, у вёсцы Кнаразы, разам з вучнёўскім музычным калектывам „Зарняткі" з Пашкоўшчыны, давалі платны канцэрт, а сабраныя грошы перадалі на фонд пабудовы беларускага музея ў Гайнаўцы. Наогул, настаўнікі вельмі хваляць сёлетні восьмы клас за яго актыўнасць, заангажаванасць у працы на карысць школы і свайго асяроддзя. „Гэты клас надоўга застанецца ў памяці школы", — сказала аб іх настаўніца беларускай мовы Анна Шыманская.

Вельмі масава прайшоў у школе дэкламатарскі конкурс. Удзельнічала каля 30 чалавек. На раённы агляд у Кляшчэлях паехалі сем вучняў. Шасцікლас-

(Працяг на стар. 10)



*Восьмы клас, самы актыўны і адданы школьным справам, рыхтуецца развітвацца са сваёй школай. Усяго ім добрага ў далейшай вучобе і пажаданні, каб споўніліся іх мары ў далейшым жыцці.*

Васіль Лаўрыновіч

## ПРАЛЕСКІ

На пагорачку,
На ўзлеску,
Дзе снягі ужо сплылі,
Сінявокія пралескі
Раніцою расцвілі.

Хоч не хочаш —
Крок запыніш,
На пралескі
Позірк кінеш.
А яны і не хаваюцца —
З кожным з нас вітаюцца,
Кожнаму ўсміхаюцца.

Рыгор Ігнаценка

### ЦЕСЛЯРЫ

Люблю адпачываць на ўзлессі. Тут мне кожнае дрэва знаёма. Ведаю нават, дзе які сучок тырчыць, дзе губка расце.

У асінцы, што туліцца да векавой хвоі, ёсць дупло. Летась у ім стракаты дзяцел жыў. Падыду, бывала, да асінкі — тук, тук, — паляпаю тронкам нажа па ствале. Высуне дзяцел з дупла галоўку ў чырвонай шапачцы і незадаволена: „Чык, чык!" Маўляў, што трэба? Ціхенька, каб не турбаваць гаспадара, адыду ўбок. Пацёра дзятляняттак выгадавалі тут клапатлівыя бацькі.

Вясною я зноў вырашыў сям'ю дзятлаў адведаць. Тук, тук! — ляпаю па дрэве. Вылазіць. Толькі, вось дзіва, не мой знаёмы дзяцел, а круцігалоўка. Села на галінку побач і давай галавой круціць, непрыгожа крыўляцца.

— Няўжо, — пытаюся я ў лесніка дзеда Зміцера, — малая круцігалоўка дужага дзятла з дупла прагнала?

— Ды не, — смяецца ён. — Гаспадар сам яго пакінуў. Дзятлы двойчы не селяцца ў адным дупле. Штогод сабе новыя кватэры будуюць. А старыя іншым птушкам пакідаюць — удодам, гарыхвосткам, совам... Бачыш, будуюць лясным насельнікам жыллё.

Дык вось чаму дзятлаў цеслярамі завуць.

## Вершы Віктара Шведа

### ГАСЦІННАЯ ЦЁТКА

— Еш, еш, Марцін,
Дзевяты блін.
Сказаць хачу:
Я не лічу.

— Дзякую, цёця.
Комам у роце
Стане дзевяты.
Пайду дахаты.

### БЯРЫ ПРЫКЛАД З БАЦЬКОЎ

Тата пакараў Адама.
З плачам той спытаў праз хвілю:
— Ці цябе бацькі таксама,
Калі быў маленькі, білі?

— Не каралі аніколі,
І таму мне вельмі прыкра.
— Дык чаму ж рукам даў волю?
Не бярэш з бацькоў ты прыклад?

### ДАЎ СЛОВА

Настаўнік сварыцца на Ўладка:
— Заўсёды ў нас з табой крамола.
Ізноў спазніўся на заняткі,
Хоць блізка так жывеш ад школы.

— Прасіла мама, шыю, вушы
Каб вымыў я дакладна з бруду.
Дык сёння слова даць я мушу:
Больш гэтага рабіць не буду.

### ЯКІ Ж ТУТ ВЫБАР?

— Мой ты сыночак невялічкі,
Сумна табе, — азваўся тата. —
Ці хочаш, каб табе сястрычку
Купіць або малога брата?

— Хачу ці не хачу таго я, —
Адрэзаў тут разумнік Вацік, —
І так паявіцца малое
У хуткім часе ў нашай хаце.

### РОЗУМ І ДУРНОТА

Прыбег Сярожа з сінякамі
Са скаргаю на Мікалая.
Гарэзу пакараўшы, мама
Як жыць павінен павучае:

— Ты кулакамі пасінячыў,
Дурніла, вернага Сярожу.
Той толькі будзе мець удачу,
Чый розум дурасць пераможа.

### У РУКАХ ПЕЦІ ЗАПАЛКІ СВЕЦЯЦЬ

Вярнуўшыся з рыбалкі,
Татулька просіць Пецю:
— Купі, сынок, запалкі
Ды паспрабуй, ці свецяць.
Не дачакаўся тата:
Меў жа прыйсці за хвілю!
Сын на парозе хаты
Сказаў: — Усе свяцілі!

### ВЕРКА ГЛЯДЗІЦЬ У ЛЮСТЭРКА

Мама даведацца хоча:
— Чаму гэта дачанька Верка
Раптам заплюшчвае вочы,
Калі заглядае ў люстэрка?

Адказвае маме малая,
Сканфужана біцам бы трошкі:
— Цікава мне, як выглядаю,
Калі ноччу сплю ў сваім ложку?

(Працяг са стар. 9)

## АПТЫМІСТЫЧНА Ў ОРЛІ

ніц Габрыелю Гаворка і Аню Главацкую, а таксама васьмікласніц Асю Гаворка, Асю Куну і Анелю Федаровіч падрыхтавала настаўніца Анна Шыманская, а вучаніц чацвёртага класа — Касю Ігнацюк і Эву Стэльмашук — настаўніца Яўгенія Тхарэўская. Аня Главацкая, Ася Гаворка і Ася Куна занялі добрыя месцы і на цэнтральным аглядзе дэкламатарскага конкурсу, які адбываўся ў Беластоку.

Цяпер васьмікласнікам рыхтуецца маладая змена. Вучні шостага класа хочуць праявіць сябе не горш, чым іх старэйшыя сябры. Яны ўжо ў сваім класе таксама арганізавалі тэатральны гурток і хочуць добра выступіць у чарговым аглядзе.

Не раз выступалі на сцэне і выхаванкі настаўніцы музыкі Ніны Шуй. Ужо некалькі год спяваюць беларускія песні спачатку шасцёрка, а цяпер пяцёрка дзяўчатак. І сёлета яны рыхтуюцца да нашага конкурсу. Жадаем і ім займаць самыя лепшыя месцы, а галоўнае — несці ў народ нашыя цудоўныя песні, нашы звычаі і традыцыі. Каб наша песня і наша беларускае слова не толькі не забывалася, але шырылася і сярод маладога пакалення.

Пакуль што ў школе вельмі цяжкія ўмовы навучання. Стары школьны будыначак вельмі малы і не змяшчае і паловы вучняў. Школа наймае некалькі вясковых хат, але і гэта не вельмі памагае. Дзеці ездзяць нават вучыцца ў суседнюю вёску Крывая, дзе ёсць добры будынак, але няма ў вёсцы дзяцей. Усе гэтыя цяжкасці лагодзіць думка аб бліжэйшай радаснай будучыні. На вачах усіх расце новая вялікая і прыгожая школа. Яна з вялікім запасам павінна змясціць 300 вучняў Арлянскай школы. Будзе ў ёй і вялікая гімнастычная зала, і святліца, і сталоўка, і кабінеты — адным словам, усё, што патрэбна школе. а чаго цяпер так усім ім не хапае. Калектыў настаўнікаў і вучняў вельмі хоча пасябраваць з нейкай беларускай школай, але запрасіць да сябе гасцей зможа толькі за год, калі плануецца адданне новай прыгожай шматпавярховай і светлай сучаснай школы.

А „Зорка" жадае дзецям з Орлі хутчэйшага пераходу ў новы будынак, а таксама, нягледзячы на цяжкія ўмовы навучання, добрых і моцных пяцёрак усім.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара



*Расце будынак новай школы. Від з вуліцы. На пярэднім плане — гімнастычная зала.*



*Від з падворка.*

## Вучнёўская творчасць

* * *

Беларусь! Ты край паэтаў!
У гарадах і на сяле
Вершы пішуць кават дзеці,
Вершы пішуць пра цябе.
Горад Мінск — цудоўны горад,
Горад сонца і вясны,
І вялікі, і зялёны,
Самы лепшы на зямлі!
Беларусь, твае азёры,
Нібы вочы, свецяць мне.
Поўны мар, аб шчасці зоры
У беларускай вышыні.
Я табе дару маленькі
Гэты вершык, Беларусь.
Я люблю цябе, як маму,
Я табою ганарусь.

Вера Бурлак,
вучаніца 5 класа.
Мінская школа № 115

### ВЯСНА

Хто не любіць вясны?
Усе любяць! — адкажам
дружна.
Бо вясна — гэта кветкі,
Што цешаць вочы,
І колерамі і пахам.

Вясна — гэта
Цвітучае дрэва,
Спеў салаўя,
Зялёная траўка
І — вялікая радасць.

Ася Янушкевіч,
школа ў Нарве

### САБАКА

Мой сабака — грозны звер,
Шчэрыць зубы да людзей.
Скача смела па падворку,
Я ж чытаю ўсё „Вясёлку".

Мама, тата, дзед і баба
Прагулялі з ім ўвесь ранак,
Ужо й вечар завітаў,
А сабака ўсё бурчаў.

### КОШКА І КОТ

Сядзіць кошка на руках,
Глядзіць грозна на ката,
Кот хвосцікам памахаў,
Кошка мяўкнула — мяў, мяў.

Кошка гыцнула: гыц, гыц.
І зноў на ката фурчыць,
Кот тады пералякаўся
Ды на плот ад нас схаваўся.

Кошка мяўкнула кіслява:
— Ну, з цябе, кот, і разява.

Крыся Плева, 4 клас.
Школа ў Ласінцы.

## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Я ўжо прасіла Цябе апублікаваць мой адрас. Ты гэта зрабіла. Вялікае дзякуй за гэта. Мне прыйшло шмат пісем. Адна дзяўчынка нават запрашала мяне ў госці. З майго класа дзяўчаткі прасілі таксама, каб да іх прыслалі адрасы дзяўчаткі з Польшчы. Калі гэта можна, надрукуйце ў газеце мой адрас зноў. Няхай мне напішуць. Я ўсім адкажу і раздам адрасы сяброўкам. Мой адрас: БССР, 220131, г. Мінск, вул. Міарашнічэнкі, 15-92. Юля Тышко. Хачу, таксама, праз вашу газету перадаць прывітанні маім сябрам у Польшчы — Міры, Агнешцы, Андрэю. Пішыце да мяне.*

*З прывітаннем*
Юля Тышко

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"

*Вучуся я ў трэцім класе Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. Наш клас складаецца з трынаццаці вучняў. Аврача нашай сяброўкі Сільвіі Скурскай, усе мы вывучаем беларускую мову. Вучыць нас настаўніца Анна Панфілюк. „Зорка", я прыдумала некалькі рыфмаванак. Вось яны:*

*Па-над лужкам*
*Ляцела мушка*
*І штосьці шапнула*
*Мне на вушка.*

* * *

*Паляцела Чубатка*
*Шукаць свайго татку.*

* * *

*Хадзі, хадаку,*
*Па левым баку.*

*З прывітаннем*
Эміля Дзмітрук
вуч. 3 класа,
Дубічы-Царкоўныя

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 222660, Мінская вобласць, г. Стоўбцы, вул. Цітова, 12, кв. 1. Міша Міхно.

* * *

СССР, 163020, г. Архангельск -20, Набережная Георгия Седова, 21, кв. I. Чижовой Лене. 10 год.

* * *

БССР, 220055 г. Мінск-55, Пр. „Известий", 4, к. 1, кв. 19. Алёна Барысоўская. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 4, кв. 66. Наташа Няжурына. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 40. Юля Кішкурна. 4 клас.

* * *

БССР, 220014, г. Мінск-14, 5 „Железнодорожный" пер. 10, кв. 2. Таня Анісімава. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 106, кв. 19. Наташа Бабосава. 4 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 56-А, кв. 53. Ларыса Казлоўская. 8 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 51, кв. 63 Наталля Плісько, 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 71, кв. 21. Наталля Шэрашава. 8 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 59, кв. 57. Алена Семеж. 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, Бетонны праезд. 21, кв. 5. Алена Сінкевіч, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36 вул. Купрыянава, 1 кв. 16. Максім Краўцоў. 3 клас.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Адзін багаты арабскі шэйк хоча падзяліць сваё нафтавае поле пароўну на трох сыноў. Кожны сын павінен атрымаць аднолькавую лічбу квадратаў поля і па роўнай колькасці вежаў. Зрабі падзел паміж імі.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

## ПАСЛЯ КАМАНДЗІРОЎКІ

— Я зноў з табою, свет мой ясны! —
ледзь уварваўшыся ў кватэру,
Максім з абдымкамі і страсцю
на шыю кінуўся да Веры.

Такі ж гарачы пацалунак
умомант атрымаў ад жонкі,
адчуў сябе наогул юным,
пачуўшы смех задорны, звонкі.

— Скажы, а ўсё ж памаладзеў я!
Збрыў бараду, падстрыгся, люба!
— Дык гэта ты?! — і ўмомант Вера
панікла ўся, скрывіўшы губы.

**Васіль Гедзька**

*

Суседка пытаецца ў суседкі:
— Чаму ты так рана прыбралася?
— Муж жа сёння зарплату прынясе — у тэатр пойдзем.
— Ах божа мой, я і забылася, што ў іх палучка. А я ж яшчэ і закуску не падрыхтавала.

*

Прыйшоў муж дадому п'яны-п'яны. Жонка схапіла качалку ды давай яго біць:
— Будзеш яшчэ піць, будзеш яшчэ піць?
— Угаварыла. Налівай.

*

— Ну і жыццё пайшло, — скардзіўся падвыпіўшы Пятрок свайму сябру. — Жонка як завялася, дык цэлы тыдзень не супыняецца, лаецца.
— Не сумуй, калі гэтак сур'ёзна завялася, дык хутка так, як і мая, кіне пябе.




„Кракадзіл".






*„...але ж панечка, калі я прадказваў сцягванне, то меў на думцы толькі вас..."*

## АФАРЫЗМЫ

Сучасны чалавек. Ці Гус меў рацыю? Можа, але яго тактыка была неадпаведная.

*

Адно з найбольшых няшчасцяў цывілізацыі: вучоны дурань.

*

Толькі дурань не сумняваецца.

*

Гераізму планаваць нельга, ён можа толькі здарыцца.

*

Каралеўства хлусні не там, дзе хлусяць, а там, дзе хлусню адабраюць.

*

Мастацкая літаратура гэта выказванне старых пытанняў новым спосабам, калі журналістыка гэта выказванне ўвесь час новай рэчаіснасці ўстаноўленым і нязменным спосабам.

**Карал Чапек**

## ДВА БІЛЕТЫ НА ДЗЁННЫ СЕАНС

— Так, указанні раздаў... Тут распісаўся, там адзначыўся, — Іван Іванавіч задуменна глядзеў у акно. Рабочы дзень пачаўся. — Ну і ўсё... Сход наконт дысцыпліны ў канцы дня. Піпеткіну даручыў выступіць. Гэты не падвядзе. Што ж рабіць?.. А ці не схадзіць у кіно?

У суседнім пакоі якраз у гэты час Піпеткін глядзеў таксама ў акно.

— Гэта зрабіў... Гэта заўтра зраблю, а тое наогул не буду рабіць, — напаўголаса разважаў Піпеткін. — Начальнік быў, указанні даў, больш не зойдзе... Ну і ўсё?.. А што, калі збегаць у кіно? А пасля падрыхтуюся да выступлення на сходзе...

Толькі Іван Іванавіч усеўся і вольна адкінуўся назад, азірнуўся і ўбачыў, як па прахо- дзе кіруецца з блакітным білецікам у руцэ Піпеткін.

„Ну, Піпеткін, — зларадна падумаў Іван Іванавіч. — Так, значыць, ты рыхтуешся да выступлення?"

Піпеткін знайшоў сваё месца, сеў, агледзеўся. І раптам заўважыў наперадзе знаёмую лысіну.

Закончыўся фільм. Кожны сваёй дарогай накіраваўся ў кантору.

Толькі Піпеткін пераступіў парог свайго кабінета, як пачуўся ўладарны голас Івана Іванавіча:

— Піпеткіна да мяне!.. Скажыце, таварыш Піпеткін, чым вы займаліся да гэтага часу?

— Вы ж даручылі мне выступіць на сходзе „Кожную рабочую мінуту — рабоце". Вось і збіраў факты для выступлення.

**Васіль Ферапц**

*(„Вожык", № 7/1989)*

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### СОНЦА ЎСХОДЗІЦЬ І ЗАХОДЗІЦЬ

**(народная)**

Сонца ўсходзіць і заходзіць,
Нізенька заходзіць.
Добры хлопец да дзяўчыны
Штовечар прыходзіць.*

Няхай ходзіць, няхай ходзіць.
Яна яго любіць.
Як ён выйдзе за вароты,
Яна яго судзіць.

Няхай судзіць, няхай судзіць,
Яна перастане,
Яна таму казачэньку
Дружынаю стане.

Як паехаў казачэнька
За жоўтыя пескі.
Аглянуўся назад сябе —
Бяжыць брат у бежкі.

— Ой, вярніся, казачэнька,
Ўжо маці ўмірае.
— Не вярнуся, забаўлюся —
Няхай бог прымае.

Як паехаў казачэнька
За круглыя горы.
Паліліся ў дзяўчынонькі
Гарачыя слёзы.

— Ой, вярніся, казачэнька,
Ўжо дзеўка ўмірае.
— Буду біці, буду гнаці,
Каб жыву застаці.

Пад'язджае казачэнька
Да сяла блізенька,
Да й ударылі па дзяўчыне
Звоны галасненька.

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца




## ГУМАР З БАРАДОЮ

### АБХІТРЫЛІ ПАНІ

У адной пані касцы касілі траву. Утаміліся і леглі адпачыць. Ажно і пані едзе.

— Уставайма, хлопцы, бо дастанецца нам ад пані, — кажа адзін касец.

А другі:

— Ляжыце, хлопцы, і скубайце траву, а я ўжо знайду, што сказаць.

Вось пад'ехала пані і пытае сярдзіта:

— Чаго вылежваецеся, гультаі?

А касец ёй:

— Вось, пані, касілі-касілі ды і дайшлі да такой травы, што каса не бярэ, то мы яе, праклятую, рукамі рвем.

— Гэта іншая справа! — прамармытала пані. — Так і далей рабіце.

*Даслаў: Алег Урбановіч з Ліды*

## БОЛЬШ СВЯТЛА

У маленькім мястэчку позней ноччу пажарнікаў выклікалі тушыць пажар. Вуліца, на якой загарэўся дом, была цёмная, што перашкаджала пажарнікам у іх працы. Адзін з іх крычыць каменданту:

— Не магу падключыць помпу, бо цёмна! Што рабіць?

Камендант на гэта:

— Узмацніць пажар!

